СПЕЦВЫПУСК

# КРЫНІЦА

№1 (19) красавік, 2011

www.bchd.info




# ЯК ФАЛЬСІФІКАВАЛІ ВЫБАРЫ

## Прэзідэнцкія выбары, якія прайшлі 19 снежня 2010 года, нельга лічыць сумленнымі.

Ціск на сябраў ініцыятыўных групаў кандыдатаў у прэзідэнты падчас збору подпісаў і ў дні агітацыйнай кампаніі, прымусовае датэрміновае галасаванне, маштабныя фальсіфікацыі ў час галасавання і падліку галасоў вымушаюць нас канстатаваць, што гэтыя выбары нельга лічыць легітымнымі.

Па інфармацыі экзіт-полаў і з тых участкаў, дзе рэальны падлік галасоў удалося пракантраляваць назіральнікам, кандыдат у прэзідэнты А.Лукашэнка набраў каля 39% галасоў – гэта менш, чым астатнія кандыдаты, узятыя разам. Таму павінны быў адбыцца другі тур галасавання, у якім кандыдат ад дэмакратычных сілаў верагодна перамагаў.

Гэта пацвярджае і тая неадэкватная жорсткая рэакцыя ўлады на мірную дэманстрацыю, што адбылася ў Мінску ў дзень галасавання.

Мітынг, які прайшоў у вечар прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 г., быў выключна мірнай акцыяй, на якую людзі ішлі сем'ямі, каб выказаць сваю нязгоду з масавай фальсіфікацыяй выбараў.

*Працяг на стр.12*

**Зьмяніўся нумар прэсавае службы БХД**

Для таго, каб зьвязацца з прэс-службай аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя», неабходна тэлефанаваць на наступны нумар:

**+375 29 8740455 (МТС)**

# У цемры турмы КДБ Севярынец вывучае Біблію і піша сьветлы раман



**Маці сустаршыні аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» Паўла Севярынца Тацяна Яўгенаўна Севярынец распавяла, што, мяркуючы па лістах, настрой яе сына нармалёвы, стан жа пакуль невядомы, паколькі яго даўно ніхто ня бачыў.**

Як распавяла маці палітыка, у турме Павал піша працяг свайго раману, просіць перадаць яшчэ сшыткаў, разам з суседзямі вывучае Біблію. «Я зьвярталася да сьледчага з просьбай сустрэцца з сынам, але маю заяву са сьледчага камітэту перанакіравалі ў КДБ», – паведаміла Тацяна Яўгенаўна.

«Я таксама падала заяву да сьледчага з просьбай на дазвол сустрэчы Паўла са сьвятаром. Зараз заява знаходзіцца ўва ўпраўленьні япархіі. Такую самую заяву Павал падаваў яшчэ месяц таму, хацеў паспавядацца і прычасьціцца перад постам, але яе не задаволілі. Калі сьледчы дазволіць, то трэба будзе зьвяртацца да настаяцеля храма, каб той накіраваў сьвятара да Паўла. Але зноў-такі сьледчы можа не задаволіць заяву, сказаўшы, што няма памяшканьня для споведзі», – распавяла Тацяна Севярынец.

Маці палітыка таксама паведаміла, што 9 сакавіка падпісала дамову аб супрацоўніцтве з новым адвакатам Паўла Севярынца, згодна зь якой яна непавінна нічога распавядаць пра абаронцу свайго сына, каб не нашкодзіць яму.

Апроч таго, Тацяна Яўгенаўна распавяла пра раман «Сэрца сьвятла», накіды якога яе сын перадаў ёй на мінулым тыдні. Зь яе словаў, раман пакуль што ўяўляе зь сябе эскіз на 84 старонкі, у ім няма звычайнага аповеду ў выглядзе сказ за сказам. «Я бачу, што гэта будзе сьветлы раман», – паведаміла маці сустаршыні БХД, адзначыўшы, што ў дадзены момант чарнавікі раману знаходзяцца ў надзейным месцы.

# Справу Севярынца вылучылі асобна і рыхтуюць да перадачы ў суд

**Маці зьняволенага лідэра БХД Паўла Севярынца Тацяна Яўгенаўна паведаміла пра чарговы атрыманы ліст ад сына, дзе Павал піша: «Справу маю вылучаюць асобна і рыхтуюць для перадачы у суд. Неўзабаве будзем знаёміцца з матэрыяламі».**

Гэтыя зьвесткі Тацяна Севярынец спрабуе спраўдзіць у адвоката сына, аднак зьвязацца зь ім пакуль не атрымалася.

Таксама ў лісьце Павал паведаміў, што атрымаў ліст ад Настачкі Палажанкі.

Тацяна Севярынец вельмі турбуецца, ці перадаюць сыну перадачы, бо ўжо ў другі ліст запар Павал згадвае пра зубную шчотку, ў той час як маці перадала яму ў перадачы ажно дзьве.

# Віталь Рымашэўскі пра эканамічныя санкцыі

**Да тых часоў, пакуль хоць адзін чалавек будзе знаходзіцца за кратамі, кожны палітык, які сёння выказваецца супраць увядзення эканамічных санкцыяў, паводзіць сябе амаральна. Калі народ, а ў нашым выпадку, дэмакратычная эліта, а значыць, тыя, хто мусіць несці альтэрнатыву існуючаму рэжыму, перадусім каштоўнасную, будуць дзейнічаць тымі ж сродкамі, кіравацца тымі ж каштоўнасцямі, што і ўлада, то ў Беларусі не будзе нават малога шанца на змены да лепшага.**

Я звяртаюся да ўсіх грамадскіх і палітычных дзеячоў Беларусі: Не істотна, ці з’яўляюцца тыя лідэры, што зараз за кратамі, нашымі паплечнікамі, ці палітычнымі апанентамі. Калі мы насамрэч, а не на словах жадаем вызвалення вязняў – не можам выступаць супраць эканамічных санкцыяў. Зразумела, што гэта рабіць зараз вельмі небяспечна, бо можна таксама трапіць пад рэпрэсіі. Таму можна зразумець пазіцыю тых палітыкаў ці прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці, якая, выдумляючы розныя падставы, выступаюць супраць. Можна зразумець, але немагчыма апраўдаць.

Перад такім жа самым выбарам сёння стаяць еўрапейскія палітыкі: прагматызм альбо маральнасць. Спадзяюся, яны зробяць правільны выбар. Найлепшым было б, каб адначасова з увядзеннем санкцыяў Еўрапейскі звяз выпрацаваў стратэгію, накіраваную на супрацьдзеянне спробам Расіі пазбавіць Беларусь эканамічнай і палітычнай незалежнасці.



# Апошні ліст Паўла Севярынеца: «Сам-насам з Богам. Лісты з сэрца»



**Зьняволены лідэр БХД, пісьменьнік Павал Севярынец даслаў ліст у рэдакцыю газеты «Наша Ніва». Ліст пакрэслены цэнзурай, датаваны 16 сакавіка. Павал, даўні аўтар газеты, пагаджаецца з прапановай рэдакцыі пісаць з турмы матэрыялы мастацкага ці філасофскага характару, якія маглі б праходзіць праз цэнзуру. Гэтыя лісты Севярынец назваў «лістамі з сэрца» (з сэрца сталіцы Беларусі) па аналогіі з цыклам артыкулаў «Лісты з лесу», які Севярынец дасылаў у «Нашу Ніву» з высылкі на «хімію» у Малога Сітна, і за які ён атрымаў пасьля вызваленьня літаратурную прэмію імя Алеся Адамовіча.**

### ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ. САМ-НАСАМ З БОГАМ.

Калі Бог хоча сур'ёзна пагаварыць з табою Сам-насам, Ён ня будзе тлумачыць нешта мімаходзь, напаўвуха, займаць паўгадзінкі твайго часу на кухні ці ў офісе, дзе ты думаеш адкупіцца мітусьлівай і наморшчанай малітвай, ня стане шпурляць наўздагон табе знакі ды цуды — Ён проста дасьць табе змарыцца ад уласнай сумятні да поўнага тамленьня духа, а потым моўчкі ўвойдзе, і зачыніць за Сабой дзьверы.

І толькі тады, XXXXXX XXXXX [выпэцкана цэнзурам] баючыся падняць вочы, ліхаманкава спрабуючы адкашляцца і зрабіць гатоўны выгляд, ты пачуеш гэтае непаўторнае, ні з чым не параўнальнае чакальнае і дакорлівае Божае маўчаньне.

Э-а… Госпадзе… Ну, ты Сам усё бачыў, праўда?.. Што тут сказаць. Прабач, канечне. Прабач. Вядома, я мусіў сам здагадацца, у царкве раз на тыдзень як сьлед асабіста не паразмаўляеш. Тут было столькі справаў, Ты проста не паверыш…

Відовішча жаласнае, і, тлеючы ад сораму, разглядаючы мыскі ўласных ботаў, XX XXXX XXXXX X XXXXXXXXXX XXXXX, разумееш, што Яму ня гэтае ганьбішча трэба, не тваё дзіцячае ляпятаньне і не насякомыя ў тваіх мазгах. Ён ня выбаршчык, не журналіст, не дыплямат, не супрацоўнік унутраных ворганаў, і не на добрыя міны пры кепскай гульні глядзіць. (Ён кардыёлаг увогуле.) [Апошні сказ закрэсьлены самім Севярынцам.]

Таму Ён маўчыць — і цярпліва чакае, пакуль ты перастанеш мітусіцца і нарэшце здымеш з шыі свой срэбны ключык у форме крыжа.

Госпадзе, ты дакладна хочаш паглядзець маё сэрца?..

Нібыта з таго сьвету, чуеш сваё мармытаньне: здаецца, павінна быць больш-менш, прынамсі, нічога страшнага. Ты ж быў зазірнуў пару дзён таму і маўчаў. Я і падумаў…. Ну прабач…

Крыжык заядае ў заржаўленай ключавіне. Рукі трасуцца, дасадліва крэкчаш, спрабуеш павярнуць… і з затхлым душком здагадваесься, што насамрэч XXXX справы дрэнь, хоць і не адчыняй зусім. О, не, не, Госпадзе, не дакранайся, ня трэба, я сам, са-ам!

Тут ужо ня зманіш — уласнае сэрца ўсё-такі.

Даруй, Божа! Сюды, канечне, ня тое, што зайсьці, а і стаяць побач немагчыма. XXXX XXXXXXX XXX XXXX. Зараз… Хто б мог падумаць, мг… Пастараюся дакапацца.

Сьцяўшы дыханьне, залазіш, сьпярша навобмацак, потым з галавою, жахаешся, клянеш сябе — і пачынаеш вывальваць, куды тут… сьмярдзючыя грахі, нейкія шыльды і адсоткі ўперамешку з газетамі ды плакатамі, падгнілая пыха і марнаслоўе, груды скамячаных, у нервовую клетку, размоваў з бацькамі, братамі і сёстрамі, тоны павышанага тону і шматкі неператраўленага сеціва, усе ў пляўках рэплікаў, развітаньні на вецер і раздражнёныя вокрыкі, маладушныя стогны; столькі сказанага і ня зробленага, столькі забытых і пакрыўджаных душаў, суцэльная млявасць і абыякавасьць да жыцця і, нарэшце, агульная разгубленасьць — ох, і правалы, ніяк не выграбеш да дна.

А Ён проста стаіць перад табою, трывае і маўчыць, як маўчаў калісьці перад Пілатам. І ты разумееш, што Яму так балюча, і гарыш, і баішся зірнуць і ўбачыць у гэтым вечным маўклівым Позірку сьлёзы, сьлёзы!.. зь якіх ты ніводнай сьлязінкі ня варты.

І раптам, каўтаючы соль, ачомваешся ад званоў з Пляц Волі.

Сабор.

Ратуша.

Пранізьліва і мерна.

Раптам згадваеш, што ты ў самым-самым сэрцы Менску. Такое месца!

Колькі часу трэба яшчэ — месяц, год, дзесяць — каб навучыцца з гэтага п а ч ы н а ц ь, а не з а к а н ч в а ц ь?

І тады ты даеш абяцаньне пачаць усё зноў, і вырашаеш абысьціся бяз лішніх словаў — каб Нарэшце Пачуць ЯГО.

# Свабоду палітвязням, свабоду Севярынцу!




### ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ З'ЯВІЎСЯ Ў ГОМЕЛІ

Грамадская ініцыятыва «Плошча 2010», заснаваная гомельскімі апазіцыйнамі актывістамі, правяла акцыю ў падтрымку лідэра партыі БХД, палітвязня Паўла Севярынца, які ад 19 снежня знаходзіцца ў СІЧУ КДБ.

### ПАРТРЭТЫ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ У СЛОНІМЕ

У нядзелю 27 лютага слонімскія сябры БХД расклеілі ў розных месцах ў цэнтры гораду партрэты палітзняволеных Паўла Севярынца і Зьмітра Дашкевіча з заклікам «Свабоду палітвязьням». У прыватнасьці, вельмі дарэчы выглядаюць выявы палітвязьняў побач з афішай спектакля паводле пьесы Андрэя Макаёнка «Трыбунал» як напамін беларускаму рэжыму, што яму самому не пазьбегнуць трыбуналу.




### У БЕРАСЬЦІ ПАТРАБУЮЦЬ СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ

У цэнтры Берасьця на прыпынках грамадскага транспарту зьявіліся партрэты зьняволенага лідэра БХД Паўла Севярынца. Гэткім чынам берасьцейскія прыхільнікі Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі праінфармавалі жыхароў горада пра існаваньне ў нашай краіне палітвязьняў і далучыліся да агульнанацыянальнай кампаніі па іх вызваленьні.




### МАЛІТВА ЗА ЗЬНЯВОЛЕНЫХ ДЫ ПАРТРЭТЫ СЕВЯРЫНЦА І ДАШКЕВІЧА Ў ВОРШЫ

У Воршы ў царкве Сьвятога Леаніда прайшла малітва за вызваленьне палітвязьняў. Яе замовілі мясцовыя сябры аргкамітэта Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. Гэтак аршанскія хадэкі далучыліся да супольнай малітвы за палітзьняволеных.

Таксама яны распаўсюдзілі па горадзе некалькі дзясяткаў улётак «Свабоду Паўлу Севярынцу!» з партрэтам зьняволенага ў СІЗА КДБ лідэра БХД, а таксама ўлёткі з партрэтам лідэра Маладога Фронту Зьмітра Дашкевіча, затрыманага за два дні да прэзыдэнцкіх выбараў паводле надуманага абвінавачаньня ў злосным хуліганстве.




### БОБРУЙСК ПАТРАБУЕ СВАБОДЫ ПАЎЛУ СЕВЯРЫНЦУ І ЗМІЦЕРУ ДАШКЕВІЧУ

3 лютага ў цэнтры горада Бобруйска зьявілася мноства патрэта Паўла Севярынца і Зьміцера Дашкевіча з патрабаваньнем вызваленьня палітвязьняў. У прыватнасьці партреты былы вывешаныя на будынку кінотэатра «Таварыш», дошцы для абвестак гарсуда, стэндзе газеты «Бабруйскае жыцьце», на дзьвярях будынка гарана, бібліятэкі, і на звычайных жылых дамах.




## АКЦЫЯ ПАДТРЫМКІ ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА Ў МІНСКУ

Мінскія актывісты БХД праводзяць акцыю ў падтрымку лідэра БХД, палітвязня Паўла Севярынца, які ўжо на працягу 44 дзён знаходзіцца ў СІЧУ КДБ.

Актывісты распаўсюджваюць друкаваныя партрэты Паўла Севярынца на прыпынках грамадскага транспарту, дошках аб'яў, каля пад'ездаў і ў іншых грамадскіх месцах. Акцыя мае на мэте інфармаваць грамадства аб тым што ў Беларусі ў турмах сядзяць людзі за палітычныя пераканannі!

Таксама сябры БХД падтрымліваюць зняволеных паплечнікаў лідэраў Маладога Фронта Насту Палажанку і Зміцера Дашкевіча.

На платах уздоўж чыгуначных шляхоў у напрамку «Менск-Асіповічы» і ў навакольлі зьявіліся графіці з патрабаваньнем вызваліць палітычных зьняволеных - лідэра «Маладога Фронту» Зьмітра Дашкевіча, намесьніцу старшыні «МФ» Насту Палажанку, лідэра БХД Паўла Севярынца, лідэра сацыял-дэмакратаў Мікалая Статкевіча і іншых.

Таксама на прыпынках грамадскага транспарту, дошках абвестак, каля пад'ездаў і ў іншых грамадзкіх месцах Менска штодня працягваюць зьяўляцца партрэты зьняволеных з заклікам «Свабоду палітвязням!»




## ЖАНОЧАЕ МАЛІТОЎНАЕ ШЭСЦЕ САЛІДАРНАСЦІ З ПАЛІТВЯЗНЯМІ Ў МЕНСКУ

Шэсце салідарнасці з палітвязнямі прайшло 19 сакавіка ў цэнтры Менска. У акцыі ўзялі ўдзел каля 25 чалавек, у тым ліку Тацяна Яўгенаўна Севярынец, маці зняволенага сустаршыні БХД Паўла Севярынца, маці палітвязняў Мікіты Ліхавіда, Эдуарда Лобава і Фёдара Мірзаянава, а таксама Галіна Сіўчык, маці Вячаслава Сіўчыка, які цяпер за мяжой. У малітве і шэсці прынялі актыўны ўдзел і сябры аргкамітэту БХД.




## У КАПЫЛІ ПАТРАБУЮЦЬ СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ

Напярэдадні суду над лідэрам «Маладога Фронту» палітвязьнем Зьміцерам Дашкевічам ягоныя партрэты разам з партрэтамі зьняволенага лідэра БХД Паўла Севярынца зьявіліся ў мястэчку Капыль Менскай вобласьці. Гэтак прыхільнікі Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі ў Капылі далучыліся да агульнанацыянальнай кампаніі па вызваленьні палітвязьняў.

У прыватнасьці, партрэты вернікаў Дашкевіча і Севярынца былі вывешаныя ля капыльскай сьвятой крынічкі, каб усе, хто прыходзіць па сьвятую ваду, памаліліся і за іх вызваленьне.



# Еўразвяз ўвёў візавыя санкцыі, але ўстрымаўся ад эканамічных



**Рада міністраў замежных спраў краін Еўразвяза на пасяджэнні ў Брусселі 31 студзеня прыняла палітычнае рашэнне аб рэакцыі ЕЗ на сітуацыю ў Беларусі. Лукашэнку, ягоным сынам, а ўсяго 158 чыноўнікам, забаронены ўезд у Еўразвяз, і замарожаныя іх рахункі на Захадзе. Што да эканамічных санкцый, то іх можна будзе чакаць у выпадку жорсткай расправы над палітвязнямі і рэзкага ўзмацнення рэпрэсій у краіне.**

Міністры замежных спраў ЕЗ зацвердзілі спіс беларускіх чыноўнікаў, адказных за парушэнні правоў чалавека падчас прэзідэнцкай кампаніі. Гэтым асобам забаронена наведваць тэрыторыю ЕЗ, а іх рахункі і маёмасць у краінах Еўразвяза будуць замарожаны.

У спіс трапілі 158 чыноўнікаў. У іх ліку — Аляксандр Лукашэнка і яго сыны Віктар і Дзмітрый, вечна юная кіраўніца ЦВК Лідзія Ярмошына, міністр абароны Юрый Жадобін, кіраўнік Рады бяспекі Леанід Мальцаў, кіраўнік КДБ Вадзім Зайцаў, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей, генпракурор Рыгор Васілевіч, спікер ніжняй палаты парламента Уладзімір Андрэйчанка, 24 старшыні тэрытарыяльных выбарчых камісій, 30 суддзяў і 10 журналістаў дзяржаўных СМІ.

У прынятым рашэнні зазначаецца, што спіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у ЕЗ, з'яўляецца адкрытым і можа быць перагледжаны.

21 сакавіка, краіны Эўразьвязу пашырылі на 19 чалавек сьпіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю. Перадусім, у гэтым спісе судзьдзі, якія выносілі прысуды палітзьняволеным, абвінавачаным у масавых беспарадках 19 сьнежня.

# ЗША ўвялі санкцыі не толькі палітычныя, але і эканамічныя



**Услед за Еўразвязам санкцыі ў дачыненні да афіцыйнага Мінска ўвялі Злучаныя Штаты, пры гэтым санкцыі носяць не толькі палітычны, але і эканамічны характар.**

ЗША аднавілі эканамічныя санкцыі ў дачыненні да беларускіх прадпрыемстваў «Полацк Шкловалакно» і «Лідская лакафарба», пашырылі спіс асобаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю краіны. Паводле словаў Кроўлі, уезд у ЗША будзе забронены для тых асобаў і чальцоў іх сем'яў, хто мае дачыненне да разгону акцыі пратэсту 19 снежня ў Мінску і наступных рэпрэсіяў у Беларусі.

«ЗША таксама працуюць над фінансавымі санкцыямі ў дачыненні да шэрагу асобаў і прадпрыемстваў у Беларусі. Крытэрам патраплення ў гэты спіс стане дачыненне да дзеянняў па падаўленні дэмакратычных інстытутаў ці парушэння правоў чалавека пры дапамозе палітычных рэпрэсіяў», — сказаў Кроўлі.

# Дзяніс Садоўскі распавёў пра сітуацыю ў Беларусі ў 12 краінах Еўразвязу, Еўрапарламенце і ЗША

**За 2 месяцы пасля падзеяў 19 снежня 2010 года адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі актыўна займаўся міжнароднай дзейнасцю. Як у складзе дэлегацыі беларускіх палітыкаў, так і ў фармаце партыйных візітаў палітык наведаў Літву, Польшчу, Чэхію, Германію, Бельгію, Галандыю, Данію, Швецыю, Нарвегію, Украіну, Аўстрыю, Славакію.**

Падчас візітаў адбываліся прэс-канферэнцыі аб сітуацыі ў Беларусі, сустрэчы з вядучымі еўрапейскімі палітыкамі, міністрамі замежных спраў, еўрадэпутатамі, дэпутатамі мясцовых парламентаў.

«Лічу гэтыя паездкі вельмі важнымі, асабліва ў святле неабходнасці тлумачэння еўрапейцам правільнага разумення таго, што адбылося і што адбываецца зараз у Беларусі, і адэкватнай пазіцыі на гэтыя падзеі Еўропы» – сказаў Дзяніс Садоўскі.



# БХД адзначыла Дзень Волі

**25 сакавіка сябры аргкамітэту БХД разам зь іншымі дэмакратычнымі актывістамі прыйшлі з кветкамі да скверу Янкі Купалы, але ўваход быў ачэплены міліцыянтамі з прычыны быццам бы пошуку там выбухоўкі. Тады сябры БХД, разам зь сустаршынём БХД Віталём Рымашэўскі вырашылі ўскласьці кветкі да дома №9 па вул. Валадарскага, дзе ўранку 25 сакавіка 1918 была прынятая 3-я ўстаўная грамата рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што абвяшчала незалежнасьць Беларусі.**

Дарэчы гэты дом знаходзіцца зусім побач з СІЗА на гэтай жа вуліцы, вядомым як Валадарка, і ў некалькіх дзясятках крокаў ад СІЗА КДБ - сумнавядомай Амерыканкі. І на Валадарцы, і ў Амерыканцы зараз утрымліваюцца беларускія палітвязьні.



А пасьля сябры БХД пайшлі да Чырвонага касьцёла, каб супольна памаліцца за палітвязьняў і нашую шматпакутную краіну, каб надыйшоў для нас усіх сапраўдны Дзень Волі. Каля васьмі гадзінаў вечара да іх далучылася рэкордная колькасьць чалавек за за ўвесь час трываваньня гэтых штодзённых малітоўных акцыяў, пачынаючы з 19 студзеня - ля Чырвонага касьцёла сабраліся каля 50 чалавек. Але адначасова ля касьцёла зьявілася і такая ж рэкордная колькасьць супрацоўнікаў у цывільным, у тым ліку некалькі відэаапаратараў.

Напрацягу ўсяго дня 25 сакавіка адбываліся шматлікія затрыманьні актвістаў, сярод сябраў аргкамітэту БХД таксама былі затрыманыя ня менш за 7 чалавек. Акрамя рэгіянальных сябраў БХД Тацьцяны Севярынец ў Віцебску і Барыса Кучынскага ў Слоніме, як мінімум 5 сябраў аргкамітэту былі затрыманыя непасрэдна ў Менску. Ганну Шапуцьку, Тацяну Кім і Ірыну Губскую забралі ў раёне рэдакцыі «Вячэні Мінск» калі 17-45 і адвезьлі ў Цэнтральны






РАУС. А Сяргея Анянкова і Юрася Пляшкова затрымалі літаральна за 10 метраў да Чырвонага касьцёла каля 20-00 за тое, што Анянкоў меў пры сабе складзены тронак ад сьцяга, і адвезьлі ў Маскоўскі РАУС Менска. Там тронак і сам бел-чырвона-белы сьцяг, які быў у заплечніку, сканфіскавалі і склалі пратакол. Усе, акрамя заяўніцы акцыі Ірыны Губскай, былі адпушчаныя, а Губскую, была адвезена ў ізалятара на Акрэсьціна.

У панядзелак 28 сакавіка ў судзе Савецкага раёна г. Мінска адбыўся суд над Ірынай Губскай, дзе ёй прысудзілі 3-е сутак арышту за дробнае хуліганства: быццам яна нецэнзурна лаялася, махала рукамі і не рэагавала на папярэджаньні міліцыянтаў. Увесь час знаходжаньня на Акрэсціна Ірына трымала сухую галадоўку.

# Створаная Нацыянальная каардынацыйная Рада апазыцыі



**8 студзеня ў Менску на нарадзе прадстаўнікоў апазыцыі была прынятая дэкларацыя аб сытуацыі ў Беларусі і рашэньне аб стварэньні Нацыянальнай каардынацыйнай Рады дэмакратычнай апазыцыі.**

Рада будзе дамагацца «вызваленьня арыштаваных па палітычных матывах людзей, інфармаваньнем грамадзянаў Беларусі і міжнароднай супольнасьці, дамагацца вяртаньня Беларусі на шлях законнасьці і дэмакратыі, а таксама ствараць умовы для правядзеньня ў краіне свабодных і дэмакратычных выбараў».

Пад Дэкларацыяй падпісаліся практычна ўсе арганізацыі дэмакратычнай апазыцыі: Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (А.Ярашук), беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) (М.Грыб), БСДГ (С.Шушкевіч), партыя левых «Справядлівы сьвет» (С.Калякін), АГП (С.Багданкевіч), аб'яднаньне «Гавары праўду» (А.Дзьмітрыеў), рух «За Свабоду» (А.Мілінкевіч), «Малады Фронт» (М.Дземідзенка), «Эўрапейская Беларусь» (В.Івашкевіч), аргкамітэт беларускай партыі жанчын «Надзея» (А.Яськова), аргкамітэт беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Народная Грамада (С.Кулевіч), БНФ (А.Янукевіч), аргкамітэт беларускай партыі працоўных (А.Бухвостаў), аргкамітэт БХД (Д.Садоўскі), аргкамітэт партыі Свабоды і прагрэсу (У.Навасяд), Рада беларускай інтэлігенцыі (У.Колас), экс-кандыдат у прэзыдэнты РБ, былы палітвязень А.Казулін.

«Апазыцыя пачынае кансалідавацца і каардынаваць сваю дзейнасьць для таго, каб выправіць сёньняшні стан рэчаў на Беларусі. У Каардынацыйнай Радзе ня будзе кіраўніцтва, яна прадугледжвае, што структур, якія ў яе ўваходзяць – самастойныя, і яны будуць прымаць рашэньне па кожнаму пытаньню, сыходзячы са сваіх статутаў. Мы не ствараем надпартыйную структуру», – пракаментаваў Дзяніс Садоўскі.

# Аднавіліся менскія сустрэчы БХД па чацвяргах



**З 20 студзеня аднавіліся менскія сустрэчы Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Сустрэчы БХД па чацвяргах з удзелам былога кандыдата ў прэзідэнты ад БХД, кіраўніка менскай суполкі Віталя Рымашэўскага часова будуць ладзяцца на ўправе БНФ па адрасе пр.Машэрава, д.8 у 18-30. Шчыра запрашаем усіх сяброў і прыхільнікаў!**

Першая пасля выбараў сустрэча менскай суполкі БХД з удзелам Віталя Рымашэўскага адбылася 20 студзеня. На жаль, пасля падзеяў Плошчы-2010 іператрусу на менскім офісе БХД вымушаная былі вызваліць гэтае памяшканне, і менская арганізацыя БНФ ласкава падала магчымасць для сустрэчаў БХД на сваёй управе, хаця сама ў хуткім часе можа пазбавіцца свайго офіса.

На сустрэчы прысутнічала шмат новых сябраў і прыхільнікаў, якія далучыліся да БХД падчас апошняй выбарчай кампаніі. Віталь Рымашэўскі адказаў на іх шматлікія пытанні. Былі абмеркаваныя накірункі дзейнасці БХД на бліжэйшы час, самыя галоўныя сярод якіх - салідарнасць і змаганне за вызваленне палітвязняў і праўдзівае інфармаванне беларусаў пра тое, што насамрэч адбылося на Плошчы-2010, а таксама негвалтоўная, мірная, але непрыміральная барацьба з тым духам страха і хлусні, які апанаваў нашую краіну ў апошні час.

# БХД зладзіла дабрачынную акцыю ў Віцебску

**14 сакавіка, сябры партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» зладзілі дабрачынную акцыю «Міласэрнасьць» у Віцебску. Як паведаміла віцебская каардынатарка БХД Тацяна Севярынец, актывісты БХД перадалі 29 «добрых і сьветлых, у пэўнай ступені хрысьціянскіх кніжак» абласному анкалягічнаму цэнтру.**

Паводле словаў Тацяны Яўгенаўны, у бібліятэку лякарні перадалі творы Алега Роя, Платона Палякова, Паліны Дашкавай і іншыя.

«Мы таксама прапанавалі анкацэнтру свае валянтэрскія паслугі ў дапамозе людзям, якія знаходзяцца там на лячэньні. Кіраўніцтву цэнтра мы пакінулі свае кантактныя тэлефоны», - адзначыла каардынатарка аргкамітэту БХД па Віцебскай вобласьці.



# Дэпутата асіповіцкага райсавета дапыталі ў КДБ

**5 лютага дэпутата Асіповіцкага райсавета, сябра БХД і даверaную асобу кандыдата ў дэпутаты Віталя Рымашэўскага Аляксея Цюлькова дапытвалі ў мясцовым КДБ.**

Допыт працягваўся больш за 2 гадзіны. Цюлькова папярэдзілі, што ён мае права не сведчыць супраць сябе. Вёўся пратакол допыту. Пытанні датычыліся 18 і 19 снежня 2010 года, а таксама збору подпісаў і арганізацыі передвыбарчых сустрэчаў кампаніі Віталя Рымашэўскага, даверанай асобай якога з'яўляўся Цюлькоў. Таксама былі пытанні пра замежныя паездкі Цюлькова.

19 снежня да Менска Аляксей Цюлькоў не даехаў, яго затрымалі па дарозе, у Рудзенску, зняўшы з маршруткі. На пытанні, навошта ён ехаў у Менск, хто яго запрашаў, ён адмовіўся адказваць.

# Малітоўная акцыі салідарнасці ля Чырвонага касцёла ў Менску

**З 19 студзеня штодзённа а 20-й гадзіне ў Менску адбываюцца малітоўныя акцыі салідарнасці з палітвязнямі ля Чырвонага касцёла. У іх прымаюць удзел сустаршыня БХД, былы кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі, маці зняволенага лідэра БХД Паўла Севярынца Таццяна Яўгенаўна, сустаршыня БХД Аляксей Шэін.**

Тыя, хто збіраюцца ля касцёла, традыцыйна запальваюць знічкі каля скульптуры арханёла Міхаіла, які забівае цмока, што сымбалізуе перамогу Дабра над злом. Напачатку ўсе супольна моляцца хрысціянскай малітвай «Ойча Наш», затым усе разам зачытваюць малітву за зняволеных і ўзгадваюць імёны ўсіх палітвязняў, якіх знаходзяцца зараз за кратамі. Напрыканцы прысутныя сьпяваюць беларускі духоўны гімн «Магутны Божа».



# Віталь Рымашэўскі праводзіць сустрэчы на рэгіёнах

**Сустаршыня аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» наведаў Берасьцейшчыну, дзе сустрэўся зь мясцовымі лідарамі і актывістамі БХД. Зь яго словаў, падчас візыту абмяркоўваліся пытаньні далейшай дзейнасьці арганізацыі, заснаваньня партыі і далучэньня новых сябраў. Таксама Рымашэўскі праводзіў сустрэчы з сябрамі аргкамітэту БХД ў Гародні і Слоніме.**

У час сустрэчаў разглядалася пытаньне легалізацыі дзейнасьці «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі», паколькі ў дадзены момант актывісты БХД, дзейнічаючы ад імя незарэгістраванай арганізацыі, могуць патрапіць пад крымінальны перасьлед паводле артыкулу 193 КК Беларусі. Таксама была абмеркаваная праблема вызваленьня палітычных вязьняў, перадусім сустаршыні БХД Паўла Севярынца, сябраў арганізацыі і іншых палітвязьняў.

Аднак, камітэт дзяржбясьпекі Беларусі забараніў экс-кандыдату ў прэзыдэнты ад БХД Віталю Рымашэўскаму наведаць Гомельскую вобласьць.

Таму 19 сакавіка ў Гомелі сустрэчу правёў Вадзім Кабанчук, які пасьля арышту сустаршыня Паўла Севярынца, адказвае за сувязь з рэгіёнамі.

Кабанчук патлумачыў, што КДБ адмяніў дазвол Віталю Рымашэўскаму на паездку ў Гомель. Палітык знаходзіцца пад падпіскай пра нявыезд, таму ён мусіў мець пісьмовы дазвол на вандроўку.



Удзельнікам сустрэчы прэзэнтаваны дыск «Плошча 2010», які ўяўляе сабой дайджэст відэаперадачаў розных тэлекампаніяў. На ім бачна, як Віталь Рымашэўскі спрабуе спыніць невядомых нападнікаў на Дом ураду 19 сьнежня.

# Нацыянальная Рада БХД: «Абараняем лідэраў, працягваем працу»

**26 лютага, у Менску па адрасе вуліца Варвашэні, 8 адбылося паседжаньне Нацыянальнае Рады арганізацыйнага камітэту па стварэньні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя». Удзел у паседжаньні ўзялі 42 сябры Нацыянальнае Рады і больш за 15 гасьцей.**

Напачатку выступіла Тацяна Яўгенаўна Севярынец, маці сустаршыні БХД Паўла Севярынца, які ўжо больш за два месяцы знаходзіцца ў турме КДБ. Па сканчэньні яе выступу было вырашана распачаць шэраг новых кампаніяў у падтрымку Паўла Севярынца. У прыватнасьці, толькі за час правядзеньня паседжаньня атрымалася сабраць 39 подпісаў у падтрымку хадайніцтва аб зьмене меры стрыманьня ў дачыненьні да зьняволенага сустаршыні аргкамітэту БХД.

Таксама сябры Нацыянальнае Рады прынялі рашэньне аб пачатку на нацыянальным узроўні кампаніі «Стань сьведкам», мэтай якой ёсьць збор людзей, якія б маглі засьведчыць на судовых працэсах, што ні кандыдаты ў прэзыдэнты, ні іх даверанныя асобы не заклікалі да гвалтоўных дзеяньняў як непасрэдна на Плошчы 19 сьнежня 2010 году, так і раней, якія б таксама маглі пацьвердзіць, што акцыя плянавалася выключна мірнай. Удзельнікі паседжаньня вырашылі таксама запрасіць усе дэмакратычныя сілы і штабы кандыдатаў далучыцца да гэтай акцыі.

Апроч таго, Нацыянальная рада прыняла рашэньне аб падрыхтоўцы 4-га па ліку Ўстаноўчага зьезду партыі БХД. У сувязі з гэтым было вырашана стварыць аргкамітэт па падрыхтоўцы зьезду, былі абраныя абласныя каардынатары і ўправа аргкамітэту. Але ўсе сябры аргкамітэту пагадзіліся, што да вызваленьня Паўла Севярынца сам зьезд праводзіць немагчыма.

Як паведаміў адказны сакратар аргкамітэту БХД Дзяніс Садоўскі, яго «натхніла вялікае жаданьне сябраў Нацыянальнае Рады да працягу актыўнае дзейнасьці». «Гэта яшчэ раз пацьвердзіла моц і арганізаванасьць аргкамітэту партыі», - адзначыў ён.



Сугучнае меркаваньне выказаў і сустаршыня аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі. «Тое, што рашэньні прымаліся адзінагалосна, тое, што Нацыянальная Рада сабралася амаль поўным складам і не было ніводнага лідара, які б адмовіўся ўзяць удзел у яе паседжаньні, паказвае, што рэпрэсіі не змаглі зламаць БХД. І гэта натхняе. Гэта дае ўпэўненасьць, што партыя будзе існаваць і раней ці пазьней прыйдзе да ўлады», - лічыць палітык.

# Першы крымінальны прысуд удзельніку Плошчы-2010 – 4 гады строгага рэжыму



**17 лютага у Фрунзенскім судзе Менску закончыўся працэс над Васілём Парфянковым, якога абвінавацілі ва ўдзеле ў масавых непарадках на плошчы Незалежнасці 19 снежня 2010 году. Суд пакараў Парфянкова 4 гадамі строгага рэжыму. Судовы працэс быў адкрытым.**

Суд над Парфянковым адбыўся вельмі хутка. Пракурор – дзяржаўны абвінаваўца, запатрабаваў для Васіля Парфянкова вялікі тэрмін зняволення – шэсць гадоў у калоніі строгага рэжыму.

Асаблівых доказаў віны Парфянкова не было. Гэтыя абставіны ў сваім выступе падкрэсліў абаронца, які, літаральна, па паліцах расклаў усё абвінавачанне і паказаў, што ўвогуле нельга казаць пра нейкія масавыя беспарадкі, бо масавыя беспарадкі характэрныя працяглым часам, моцнымі хваляваннямі і пашкоджаннем дзяржаўнай маёмасці, падпаламі – нічога падобнага, як адзначыў абаронца, не было. Была дэманстрацыя тысяч людзей і выпадак, калі невядомыя людзі пачалі біць шкло.

Абаронца папрасіў апраўдаць Парфянкова па 2-й частцы 239 артыкула, г.зн. прызнаць яго невіноўным у масавых беспарадках. Але суд палічыў інакш і суддзя Вольга Комар вынесла Васілю Парфянкову прысуд у 4 гады строгага рэжыму. Таксама ён павінен кампэнсаваць страты ў памеры 14 мільёнаў 700 тысяч рублёў. Нібыта пашкоджаны будынак, вадасьцёкавыя трубы, шкло і зеляніна.

# Наступныя прысуды за Плошчу: ад трох да чатырох гадоў




**2 сакавіка судзьдзя Тацяна Чаркас вынесла прысуд і прыгаварыла ўсіх трох падсудных па гэтай справе да зьняволеньня ў калёніі ўзмоцненага рэжыму. Аляксандар Атрошчанкаў, прэсавы сакратар Саньнікава, атрымаў 4 гады, Аляксандар Малчанаў – 3 гады, Зьміцер Новік – 3,5.**

Аляксандар Малчанаў віну сваю цалкам прызнаў, Новік прызнаў часткова, Атрошчанкаў цалкам не прызнаў сваёй віны.

У судовым выраку судзьдзя Тацяна Чаркас фактычна паўтарыла абвінавачваньні, што гучалі ад пракурораў, адхіліўшы, хіба толькі, абвінавачваньні ва ўзброеным супраціве міліцыі і ў тым, што Малчанаў нібыта быў п’яны. На ўсе довады адвакатаў падсудных, што ніякага складу злачынства паводле артыкулу 293 «Масавыя беспарадкі» ў дзеяньнях іх падабаронных выяўлена не было, абвінаваўчы ўхіл суду нязьменна працягваўся. Тацяна Чаркас на гэта фактычна не рэагавала.

# Дашкевічу - 2 гады, Лобаву - 4: прысуд хуткі, суровы і несправядлівы




**Судзьдзя Маскоўскага раённага суду Менску Алена Шылько 24 сакавіка вынесла вырак двум лідэрам «Маладога фронту», супраць якіх была зьдзейсьненая правакацыя, нібыта яны 18 сьнежня мінулага году пабілі двух беспрацоўных мінакоў. Зьмітра Дашкевіча асудзілі на 2 гады калёніі агульнага рэжыму. Эдуарда Лобава, які ў часе інцыдэнту меў з сабою манціроўку, пакаралі 4 гадамі калёніі ўзмоцненага рэжыму.**

Суддзя Шылько прызнала іх вінаватымі ў хуліганстве – Дашкевіч быў асуджаны па другой частцы артыкула 339 «Злоснае хуліганства». Лобаў быў асуджаны па больш жорсткай трэцяй частцы артыкула «Асабліва злоснае хуліганства», таму, што па версіі следства, ён нібыта выкарыстоўваў у час бойкі металічны ломік.

**Зьміцер Дашкевіч** і **Эдуард Лобаў** не пагадзіліся з гэтым прысудам і будуць яго ў бліжэйшыя дні абскарджваць. Асуджаныя заявілі на працэсе, што не вінаватыя і што сталі ахвярамі правакацыі, учыненай на загад уладаў за дзень да выбараў. Суд хаваў пацярпелых **Савіцкага** і **Малышава** ад вачэй публікі ў суседнім з судовай заляй пакоі і не прыслухаўся да сьведчаньняў, што менавіта яны распачалі бойку.

Суровы вырак прысутныя ў судовай залі сустрэлі выгукамі «Жыве Беларусь!», але ў шмат каго з родных і сяброў падсудных на вачах былі сьлёзы. Адвакаты **Мар’яна Сямешка** і **Алена Аўсянікава** цягам працэсу дзясяткі разоў зьвярталі ўвагу суду на памылкі ў дакумэнтах, на недакладнасьці, на тое, што сьведкі адмаўляліся ад паказаньняў. Судзьдзя, аднак, іх так і не пачула. Цяпер адвакаты выглядалі стомленымі і расчараванымі. Камэнтаваць прысуд яны ветліва адмовіліся.

У суд прыйшлі дзясяткі паплечнікаў Дашкевіча і Лобава, каб падтрымаць іх, у тым ліку сябры аргкамітэту БХД **Аляксей Шэін і Дзяніс Садоўскі**. Былі таксама дыпламаты – кіраўнік амбасады Швецыі **Штэфан Эрыксан**, прадстаўнік нямецкай амбасады.

На прыступках суду пасьля абвяшчэньня прысуду Дашкевічу і Лобаву прысутныя на судзе хрысьціяне сталі ў кола і памаліліся за іх ўмацаваньне і вызваленьне, за пакаяньне тых, хто іх зьняволіў і за нашую краіну.

# БХД не зарэгістравалі. Прадстаўнікі БХД адмовіліся ўдзельнічаць у сьпектаклі пад назвай «Вярхоўны суд»

**22 лютага адбылося першае паседжаньне Вярхоўнага Суда РБ па скарзе прадстаўнікоў БХД на рашэньне Міністэрства юстыцыі аб трэцяй адмове ў дзяржаўнай рэгістрацыі партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя». Паседжаньне працягвалася каля 3 гадзінаў з паўгадзінным перапынкам, і ў выніку было перанесенае на пятніцу 25 лютага на 10 гадзінаў раніцы.**




Інтарэсы БХД у судзе прадстаўлялі адказны сакратар **Дзяніс Садоўскі** і сустаршыня аргкамітэта стваранай партыі **Віталь Рымашэўскі**.

Напачатку паседжаньня было заяўленае хадайніцтва аб тым, каб да разляду справы быў далучаны другі сустаршыня аргкамітэта БХД **Павал Севярынец**, які зараз знаходзіцца за кратамі. Менавіта Севярынец быў адказны за працэс рэгістрацыі партыі і рыхтаваў усе дакуманты для падачы ў Мінюст. У гэтым хадайніцтве было адмоўлена.

На хадайніцтва аб ксеракапіраванні матэрыялаў справы прадстаўнікам БХД было прапанава прыйсьці ў суд са сваім ксераксам, бо ў суда няма магчымасьці гэта зрабіць.

Пасля першага так званага судовага паседжання, прадстаўнікі БХД адмавіліся ўдзельнічаць у працягу судовага сьпектаклю ў Вярхоўным судзе.

«У такіх умовах БХД не лічыць патрэбным працягваць удзел у судовым паседжаньні, вынкі якога перадвырашаныя. Зараз у сітуацыі, калі лідэр партыі Павал Севярынец знаходзіцца за кратамі, экс-кандыдату ад БХД Віталю Рымашэўскаму таксама пагражае да 15 гадоў турмы, калі па шэрагах БХД пракацілася хваля рэпрэсіяў і ператрусаў, разгромленыя цэнтральны і ўсе рэгіянальныя офісы, канфіскавана больш за 40 адзінак аргтэхнікі, у сітуацыі, калі суд працягвае сваю гульню «правасудзьдзе», ды калі ў першыя 5 хвілінаў зразумела, чый бок займае судзьдзя і пракурор, калі ўсе довады і доказы ня чуюцца і губляюцца ў паветры, і кожны з актораў, і прадстаўнік Мінюста, і судзьдзя з пракурорам чытаюць свае прамовы па паперках, мы адмаўляемся ад удзелу ў прафанацыі пад назвай судовы працэс і заяўляем пра тое, што мы надалей будзем дзейнічаць у якасьці аргкамітэта і ня спынім спробаў зарэгістраваць партыю, якая ўжо фактычна існуе, але якую адмаўляюцца рэгістраваць» – ў заяве БХД.

У выніку Вярхоўны суд не задаволіў скаргу аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» на адмову Міністэрства юстыцыі зарэгістраваць партыю.

Сустаршыня аргкамітэту па стварэньні БХД **Віталь Рымашэўскі** паведаміў, што рашэньне Вярхоўнага суду было «прадказальным», аднак пісьмовага пацьверджаньня судовага рашэньня стваральнікі БХД пакуль не атрымалі.

# Лукашэнка назваў сапраўдную прычыну нерэгістрацыі БХД



**У інтэрвію амэрыканскай газэце Лукашэнка сказаў, што Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя ніколі не будзе зарэгістраваная, паколькі хрысьціянскія дэмакраты удзельнічалі ў так званых «беспарадках» - у акцыі пратэсту ў дзень выбараў. Прыводзім фрагмент гутаркі:**

«Калі няўрадавыя арганізацыі не парушаюць законы, дык для іх не праблема зарэгістравацца», — спрабаваў сьцвердзіць Лукашэнка.

«Гэта няпраўда. Як наконт Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі?» — запытаўся журналіст.

«У Беларусі хрысьціянскія дэмакраты, верагодна, ніколі не будуць зарэгістраваныя. Яны ўдзельнічалі ў беспарадках. Яны не хрысьціянскія дэмакраты, яны – бандыты», — абрэзаў Лукашэнка.

Між тым, «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя», заклікаючы людзей да ўдзелу ў акцыях пратэсту, заўсёды казала пра мірную дэманстрацыю, а прадстаўнікі БХД усяляк спрабавалі не дапусьціць масавых беспарадкаў.

*Працяг. Пачатак на стар. 1*



*Збівалі мірных удзельнікаў, старыкоў, жанчын, дзяцей*



*Пад час таго, як кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі спыняў правакатараў, якія білі шыбы, спецсназ разбіў яму галаву*



*Акцыі салідарнасці з затрыманымі праходзяць у Беларусі амаль кожны дзень*

фота з сайту www.svaboda.org

Аднак мірны мітынг быў перарваны правакацыяй каля Дома Ураду. Каля дзясятка правакатараў без перашкодаў з боку міліцыі напрацягу 30 хвілінаў білі шкляныя дзверы Дома Урада. Шматлікія ўдзельнікі масавай акцыі імкнуліся зрабіць усё, каб спыніць гэтыя дзеянні. Кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі вымушаны быў сам спыняць хуліганаў каля дзвярэй, дзе ў выніку ён атрымаў траўму галавы. Тым не менш, пасля гэтага ён здолеў выйсці на трыбуну і заклікаць арганізаваць ахову і спыніць правакатараў. І калі сіламі грамадзян разбіванне шыбаў было фактычна спынена, спецназ пачаў массавае з'біццё і арышты ўдзельнікаў мірнай акцыі. Больш за 700 чалавек апынуліся за кратамі. Сотні збіты і пакалечаны.

На працягу паслявыбарчага перыяду ў краіне адбываюцца масавыя перытрусы і арышты. Пад рэпрэсіі падпадаюць незалежныя СМІ, актывісты партыяў і грамадскіх арганізацыяў. У першыню ў гісторыі свету, на наступны дзень пасля галасавання, 7 з 10 кандыдатаў былі пасаджанны ў турму. Ім, а таксама іх давераным асобам прыд'яўлена абвінавачанне ў крымінальным злачынстве. Па гэтай крымінальнай справе быццам бы аб масавых беспарадках праходзяць прадстаўнікі аргкамітэту па стварэнні «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі, кіраўнік яго выбарчага штаба Павал Севярынец, а таксама яшчэ каля 50 чалавек, прычым Севярынец і большасць абвінавачаных знаходзяцца ў следчым ізалятары КДБ.

Мы заклікаем усіх далучацца да патрабавання свабоды для беларускіх палітвязняў!

Заклікаем таксама ўсіх людзей добрай волі далучацца да аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя»!

Калі ў вас ёсць магчымасць, памножце гэты матэрыял і перадайце яго сваім сябрам і знаёмым.

Жыве Беларусь! Жыве з Богам!

Кантакты: Наш сайт www.bchd.info,
E-mail: bchd.info@gmail.com,
Тэлефон: + 375 29 1673435



**Шаноўныя браты і сёстры!**

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.info@gmail.com**

або тэлефон – **8029 1673435**

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне**
**Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»**
**Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.**

**Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 1 красавіка 2011**
**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.**
**Распаўсюд бясплатны.**